«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (219), лістапад 2024 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 11 (219) (лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест







Фота nlb.by

**ГРАМАДА**

# Першыя Дзяды ў Менску

Кастусь ТАРАСАЎ

Не ўсе памятаюць, што першы раз Дзяды ў выглядзе грамадзянскай акцыі адзначылі не ў 1988 годзе масавым мітынгам, а паэтычнай імпрэзай ля помніка Янкі Купалы ў 1987-м…

У 1987 годзе мяне папрасіла дзяўчына, каб я выступіў на мітынгу, які праводзяць «Тутэйшыя» і «Талака» ў скверы імя Янкі Купалы. Да гэтага ніякіх яўных мітынгаў у Мінску, якія праводзіліся некамсамальскімі моладзевымі аб'яднаннямі, не было. Колькі збярэцца людзей мітынгаваць — дзяўчына, якая патэлефанавала мне, не ведала, можа быць, 100 чалавек.

Мітынг быў прызначаны на 1 лістапада, на вядомыя, але ніколі не адзначаемыя Дзяды. Выступалі са мной Пётр Садоўскі і Анатоль Сыс. Садоўскага я паважаў за філасофскае мышленне, добрую моўную адукаванасць, знаўцу фальклорных песняў. Сыс падабаўся мне як выбітны майстар верша. І абодвух я паважаў за ўвагу да беларускай культуры.

Мы прыйшлі да помніка Янку Купалу а 12 гадзіне. На мітынг сабралася чалавек трыста, усе былі ўсхваляваныя, бо ніхто не ведаў, ці будзе там міліцыя або група людзей у цывільным, якія з жорсткасцю разагналі 15-гадовых дзяўчат за спеў народных песняў на «Гуканні вясны» летась.

Перад помнікам стаяў памост, узведзены яшчэ ўлетку на свята паэзіі. Многіх з наведнікаў я ведаў па сваёй журналісцкай дзейнасці, але палова была мне незнаёмая. Далёка ад усіх высіўся першы сакратар Мінскага гаркама КПСС.

Мітынг пачаўся чытаннем вершаў Янкі Купалы, потым прапанавалі прамовіць мне. Дзяды было тым словам, якое аб'ядноўвала ўсе ахвяры народа. Я сказаў пра рэпрэсіі супраць беларускага народа за ўсю яго шматвяковую гісторыю. Гаварыць трэба было гучна, узмацняльніка гуку ў нас не было. За некалькі хвілін я пералічыў усе ахвяры, якія ведаў: ад Патопу, Люблінскай уніі, трох расійскіх падзелаў ды савецкіх рэпрэсій 30 — 40 гадоў.

Пасля выступаў Анатоль Сыс, лідэр «Тутэйшых», яму было 27 гадоў. Ён прачытаў свой верш «Маналог "Тутэйшага"» і ў мёртвай цішыні пачаў зачытваць спіс расстраляных сталінскімі карнікамі беларускіх пісьменнікаў.

Надышла чарга Пятра Садоўскага. Ён выбраў для свайго выступу вельмі балючую тэму: параўнаў колькасць забітых у вайну немцаў і колькасць забітых у вайну савецкіх людзей. Гэтая розніца ў 10 мільёнаў чалавек усіх уразіла…

Напрыканцы маладая Кася Камоцкая пад гітару выканала тры песні, чым выклікала авацыі ва ўсіх, акрамя прадстаўнікоў партыйных органаў.

На гэтым афіцыйная частка мітынгу завяршылася, але каб не засталося «шкоднага меркавання», пачалася дыскусія, у якой з прамовамі звярнуліся да мітынга Анатоль Майсеня, Мікалай Сташкевіч, Васіль Зуёнак і пасля ўсе астатнія, не жадаючыя змірыцца з імі за тэндэнцыйныя погляды.

І нікога не забралі, наогул міліцыі не было, і ўсе спакойна разышліся па дамах. Можа быць, гэты мітынг затух бы ў памяці, але газета «Советская Белоруссия» праз тыдзень надрукавала ў двух нумарах артыкул Анатоля Майсені, у якім ён абрынуўся на тых, хто назваў мільённыя рэпрэсіі «генацыдам беларускага народа». Гэтага было мала, ён не назваў нашыя імёны, і праз два месяцы, 29 снежня, газета апублікавала вялікі крытычны артыкул В. Папяляева, прысвечаны Пятру Садоўскаму, Анатолю Сысу і мне.

«Советская Белоруссия» выходзіла 200-тысячным тыражом, і за дзень да Новага года падрабязная публікацыя аб мітынгу ў Мінску «Талакі» і «Тутэйшых», аб нашых выступах стала вядомая краіне. Аўтар артыкула быў не вельмі карэктным і знарок змяшаў імёны Цвікевіча, Ластоўскага, Лёсіка, расстраляных да вайны органамі НКУС, з імёнамі вайсковых злачынцаў. Было сумнеўна, каб чытачы «Советской Белоруссии» не паверылі ў гэта змрочнае газетнае слова. Мы напісалі ліст, падпісалі нашымі трыма прозвішчамі, і загадчык аддзела прапаганды і агітацыі «Советской Белоруссии» дапамог нам надрукаваць яго ў той жа газеце ў студзені 1988 года.

Пасля гэтага ўсе гутаркі аб першым мітынгу «Дзяды» спыніліся. А ў кастрычніку 1988 года адбыліся другія Дзяды, якія сталі вядомыя на ўвесь СССР, бо супраць мірных дэманстрантаў улады ўжылі жорсткую сілу.

***2008 г.***

## Дзяды

Ларыса ГЕНІЮШ

*Дождж падае вонку прыцішаным звонам,*
*дождж льецца, дождж плача на шыбах аконных,*
*балючы стон ветру даносіцца з даляў,*
*і зоркі на небе нам ноч не запаліць.*

*Ў святынях сціх гоман малітваў нядзельных,*
*на могілках свечкі даўно дагаралі.*
*А ў краі, дзе думы мае безупынна,*
*чакаюць у хатах дзядоў на гасціну.*

*Да нас не забудзьце, прыходзьце, дзяды;*
*хопіць малітваў ў мяне і яды, —*
*з сёлаў забытых, з лагчын і бароў,*
*і з наднямонскіх старых цвінтароў*

*У дом мой плывеце на святло агню,*
*вокны шырокія Вам адчыню;*
*гэдак прыходзьце, як калісьць жылі,*
*весткі прыносце із роднай зямлі.*

*Душу Вам вышлю насустрач сваю,*
*палкай малітваю Вас напаю,*
*сэрца маё каля Вашых магіл,*
*там, дзе сумуе мой край дарагі.*

*У вечар таемны, у поўначы час*
*з Божае волі чакаю на Вас;*
*разам мы просьбаў гарачы наш жар*
*слаць будзем шчыра прад Божы аўтар.*

*Сумна і пуста ў вокнах маіх,*
*ніхто не прыдзе сюды з жывых;*
*кругом пустыня, навокал цьма,*
*над горнай прорвай стаю сама.*

*Будзем прасіць за тых, хто не забыў*
*ні роднай мовы, ні родных ніў.*
*Хто мёртвых уваскрошваў святою рукой,*
*той нас не пакіне ў хвіліне цяжкой.*

***1947 г.***

## Дзяды

Уладзімір МІРОНЧЫК

*Наша спрадвечнае свята,*
*Сумнае свята — Дзяды.*
*Чыста прыбраная хата,*
*Ціха глядзяць абразы.*

*Белы абрус вышываны,*
*Свечка гарыць на стале,*
*Стравы як след згатаваны,*
*Ды на вячэры не ўсе.*

*Дзе вы, любімыя душы?*
*Молімся ціха за вас,*
*Ваш супакой не парушым,*
*Вы завітайце да нас!*

*Двор свой пазнайце ціхмяны,*
*Гляньце на хатку сваю,*
*Храм наш стары, дзераўляны,*
*Што бласлаўляе зямлю.*

*Дзякуем вам, дарагія,*
*Што гаравалі за нас,*
*Ды у гадзіны ліхія*
*Мелі праўдзівы адказ.*

*Ведалі праўду святую,*
*Бедна, ды годна жылі.*
*Дай Бог, і мы ахвяруем*
*Сэрцы для роднай зямлі…*

# З удзячнасцю згадваю…

Марыя БАРАВІК

…Як сон, мільгне першая сустрэча з Генадзем Бураўкіным і Міхасём Стральцовым у Віцебску, на семінары маладых творцаў. І тыя словы Генадзя: «Трэба пісаць на той мове, на якой маці спявала над калыскай».

Старэйшыя пісьменнікі ўгледзелі маю паэтычную душу, прынялі ў сваю і скіліі ў правільнае русла. У часопісе «Маладосць» быў змешчаны мой верш «Гадзіннік» — першы на роднай мове. А да гэтага друкаваліся ў газетах рускамоўныя вершы.

У «Маладосці» я і пазнаёмілася з добрым чалавекам — Міколам Якаўлевічам Аўрамчыкам. Ён няньчыўся там з юнымі летуценнікамі, выяўляў і падтрымліваў літаратурную змену. Рыхтаваў па-бацькоўску, ветліва і сур'ёзна. Ён, мусіць, каля трох дзясяткаў гадоў запускаў у паэзію юнае племя праз «Маладосць».

З верша «Гадзіннік» я і пайшла патрыятычнай сцяжынай — беларускай. Мікола Якаўлевіч чытаў мае слабенькія вершы і ветліва, сур'ёзна хваліў, мякка адштурхоўваў рыфмаваную кволь — даваяраў маёй душы, якая прадчувала паэтычныя вобразы, хацела паэзіі, але яшчэ не натрапіла на думную крыніцу. Сёння я з удзячнасцю згадваю ягоную працу ў аддзеле паэзіі. Ён заўсёды адзываўся на вершы, дасланыя ў часопіс. «Марыя, — казаў ён, — ты ж мінулы раз прыслала куды лепшы верш, чым гэты на тую самую тэму. Прышлі яшчэ што-небудзь грамадзянскае — і атрымаецца добрая падборка». Ён, такім чынам, прыдаваў маладым аўтарам натхнення, падштурхоўваў да працы літаратурнай.


Мікола АЎРАМЧЫК. 2015 г.

Мілы Мікола Якаўлевіч, ён прайшоў жыццёвыя выпрабаванні франтамі, палонам, шахтамі і спачуваў у горы-бядзе. Я знайшла ў сваіх паперах ліст да мяне на Каляды семдзесят другога года. Аўрамчык адгукнуўся на мой сум-жаль. «Марыя! Атрымаў твой кароценькі ліст — і нейк разгубіўся... Не ведаю, што сказаць табе, як дапамагчы ў тваім бязмерным горы?.. Выказваю табе сваё глыбокае спачуванне… Ні якое, вядома, спачуванне не верне ўжо маці, самага блізкага і дарагога табе чалавека… Доўга не пісаў табе нічога наконт твайго зборніка, бо былі на гэта свае прычыны. Знаходзіўся ў дзвюх працяглых вандроўках па краіне. А пасля гэтага навалюўся праклятый грып, які час ад часу дае знаць пра сябе дагэтуль. І цяпер вось сяджу дома хворы. Чакаў таксама вырашэння канчатковага лёсу тваіх вершаў, якія ты пакідала для "Маладосці". Цяпер у нас новы парадак у рэдакцыі: усе падборкі вершаў, падрыхтаваныя аддзелам для друку, чытаюць члены рэдкалегіі і выносяць вершам канчатковы прысуд. Твая падборка таксама знаходзілася ў іх. Вось толькі цяпер мне вярнулі яе, ухваліўшы да друку ўсяго два вершы. Я іх здаў у сакавіцкі нумар. Зборнік твой я прачытаў даўно. Аснова кнігі ёсць… Усё тое, што варта ўключыць у зборнік, я адзначыў птушкай. Мінус паставіў на тых вершах, якія трэба зняць зусім. Пытальнікам адзначаны вершы, над якімі варта яшчэ папрацаваць, бо яны нейкія цьмяныя, невыразныя… У вершах, падкрэсленых мною, няўдалыя радкі і словы. Іх варта павыпраўляць.… Зборнік пакідае ныдрэннае ўражанне. Адзіная толькі заўвага ў мяне да яго: трошкі нейкія аднастайныя вершы ў ім па сваёй кампазіцыйнай будове. Нібыта як мімалётныя паэтычныя іскрынкі. Хацелася б, каб былі ў зборніку і нейкія сюжэтныя або апавядальныя вершы ці балады. Ад гэтага ён быў бы больш разнастайны і багацейшы… Наогул табе трэба падумаць над гэтым пры сваёй дальнейшай працы. А пасылаць зборнік у выдавецтва можаш у хуткім часе. Праўда, якраз гэтымі днямі адбыліся некаторыя змены ў нашым выдавецтве. Цяпер выдавецтва "Беларусь" не будзе выпускаць мастацкія кнігі. Гэтай справай будзе займацца новае выдавецтва. Яно ўжо створана і будзе называцца, як быццам, выдавецтва мастацкай літаратуры. Адным словам, у бліжэйшыя дні пра гэта будзе надрукавана ў "Літаратуры і мастацтва".

Якія крокі ты будзеш рабіць цяпер у жыцці?.. Што будзеш рабіць з працай або вучобай?.. Жадаю табе ўсяго найлепшага ў жыцці! Будзь мужнай і разважлівай! З таварыскім прывітаннем М. Аўрамчык».

Вось чытаю і дзякую той ягонай тактоўнасці, уважлівасці, асцярожнасці і дабрыні. Ну, якія там мае вершы былі? Цёплы смех, з душы, ад тых двух вершаў, што «ўхвалілі да друку», і ад рукапіса, які «пакідае ныдрэннае ўражанне». А як падрабязна пералічвае хібы і не дае расчаравання! Наадварот, стварае надзею.

Хацелася сказаць Міколу Якаўлевічу, гэтаму прамому, добраму, вынослівому беларусу, што я ўсё памятаю: і тыя кароткія сустрэчы ў рэдакцыі, размовы, і тую адкрытасць, з якой ён на нейкім нашым з'ездзе пісьменнікаў кінуўся насустрач і абняў.

Дарагі Мікола Якаўлевіч, Вы распаўсюдзіліся ў сэрцах, у памяці тых юных паэтаў, якім шчыра давалі пуцёўку ў паэзію…

# Такім застаўся

Віктар НЕСЦЯРОВІЧ

За дзесяцігоддзі жыцця мне выпадала сустракацца, мець зносіны з многімі выдатнымі людзьмі з ліку літаратараў, пісьменнікаў і паэтаў. Самыя блізкія адносіны склаліся з Нілам Гілевічам, земляком па Лагойшчыне, якую ма́ю права называць сваёй другой радзімай.

Пазнаёміўся з ім і блізка сышоўся з першых месяцаў вучобы ў БДУ. Добра помніцца, як ранняй восенню пяцьдзясят першага года выпраўляліся мы ў прыгарадны калгас — дапамагаць выбіраць бульбу. Працавалі добрага паўдня, пасля чаго вярталіся ў вёску, дзе чакаў падрыхтаваны дбайнымі гаспадынямі сытны абед. Вольнага часу хапала, значную частку яго праводзілі ў сельскім клубе, дзе рыхтавалі сваю мастацкую самадзейнасць.

На канцэрце незадоўга да ад'езду Ніл прачытаў свой верш, прысвечаны вяскоўцам, асабліва шчырыя радкі адрасаваў жанкам, якія па-мацярынску дбалі пра нас, часовых пастаяльцаў.

Там жа, «на бульбе», Ніл Сымонавіч даверліва прызнаўся мне, што да яго болей чым прыхільна ставіцца адна наша аднакурсніца, і спытаў, што я нарэшце гэтага думаю. Мне заставалася толькі парадавацца за пачутае, што я і выказаў перапоўненаму шчасцем сябру. Закаханай па́ры нашы аднакурснікі, асабліва дзяўчаты, употай зайздросцілі і верылі, што справа ідзе да шлюбу. Так яно пазней і сталася.

Летам пяцьдзясят сёмага года, знаходзячыся на радзіме ў горадзе Беразіно, я атрымаў ад Ніла пісьмо такога прыкладна зместу: бяры, маўляў, лыжку-кружку і прыязджай на наша з Нінай вяселле.

Запрашэнне я прыняў з пачуццём радасці і ў вызначаны час выправіўся ў дарогу, трапіў без малейшага спазнення на вясельную бяседу. Сядзець за сталом выпала побач з ганаровым госцем — пісьменнікам Іванам Навуменкам, нашым выкладчыкам літаратуры і куратарам групы, якога мы ўсе вельмі паважалі. Трымаўся Іван Якаўлевіч у застоллі па-простаму, прапаноўваў раз за разам дасціпныя тосты.

Назаўтра вяселле працягвалася ў Нілавай Слабадзе, у бацькоўскай хаце. Весялілі ўсіх Нілаў дзядзька Аляксандр, гарманіст-самародак, весялун і жартаўнік. Калі надышоў час разыходзіцца і госці вызначыліся з начлегам, Ніл прапанаваў мне: «А мы з табой, браце, пераспім у прыдатнай пуньцы, на сене». Спалася нам у тую ноч не горш, чым на якіх ложках.


Ніл ГІЛЕВІЧ. 2006 г.

Праз год мне стала вядома, што ў Гілевічаў нарадзіўся сын, і я не мог не павіншаваць іх з такой шчаслівай падзеяй. Прыехаўшы ў Мінск, падаўся на вуліцу Кузьмы Чорнага, дзе Гілевічы на той час займелі кватэру. Ніл Сымонавіч прыняў маё шчырае віншаванне, запрасіў да стала. Праз колькі хвілін да нас далучылася шчаслівая Ніна Іванаўна, прыгубіла кілішак. Пасядзела крыху, падзялілася са мной сваімі ўражаннямі ад паездкі ў Балгарыю. І калі я сказаў, што мне пара выпраўляцца да сястры, на вуліцу Чкалава, Ніл сказаў: «Куды ты пойдзеш, начуй у нас, меса хопіць». І я, падзякаваўшы, прыняў ягоную прапанову.

Іхняга сына, названага Сяргеем, я пабачыў, падрослага, падчас адпачынку на возеры Нарач, дзе Гілевічы праводзілі свой вольны час. Ніл Сымонавіч пахваліўся, што сын праяўляе вялікую цікавасць і любоў да акаляючай прыроды. А таму і невыпадкова, што ён пасля заканчэння школы і ўніверсітэта паступіў у аспірантуру, атрымаў званне кандыдата біялагічных навук, уладкаваўся на працу ў інстытут Нацыянальнай Акадэміі Навук.

Пры чарговым наведванні Ніла Сымонавіча я застаў яго сына ў пярэднім пакоі, калі той рыхтаваўся да выхаду. Звярнуў увагу, што Сяргей увесь удаўся ў бацьку.

На малой Нілавай радзіме, у вёсцы Слабада, мне выпадала бываць шматразова, заходзіць да яго блізкай радні. Гасцінна сустракала мяне яго старэйшая сястра Ліна Сямёнаўна, якая з універсітэцкім дыпломам (а вучылася яна завочна на філфаку БДУ) многія гады настаўнічала ў Гайненскай школе. Там жа, у Слабадзе, займеў сваё дачнае месца малодшы брат Аляксандр, які доўгі час служыў у авіяцыі і выйшаў у адстаўку ў званні маёра. На бацькавай сядзібе асталяваўся як дачнік і другі Нілаў брат, Мікалай, беларускі пісьменнік, вядомы чытачам пад псеўданімам Мікола Гіль.

Аднойчы, калі я разам з напарніцай, займаючыся зборам экспанатаў для раённага музея, завітаў у Слабаду, на вясковай вуліцы сустрэў Мікалая Сымонавіча. Пасля прывітання ён мяне проста ашаламіў, сказаўшы: «А ў нас, браце мой, такая бяда». У мяне міжволі вырвалася: «З Нілам што здарылася?» Мікола вымучана прызнаўся: «Ніл, слава богу, жывы і здаровы, толькі Ніна цяжка хварэе, баюся, што невылечная яна». Зайшлі, запрошаныя, у хату, паслухалі сумную споведзь паніклага Мікалая Сымонавіча. Праз нейкія месяцы два прачытаў у газеце «Літаратура і мастацтва» некралог-спачуванне, адрасаваны Нілу Гілевічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — заўчаснай смерці жонкі Ніны Іванаўны...

Боль страты самага дарагога чалавека Ніл Сымонавіч праз усе астатнія гады насіў у сваім сэрцы. Кожны раз пры наведванні яго звяртаў увагу на партрэт, на якім яна, Ніна Іванаўна, такая, якой была ў далёкія студэнцкія гады.

Ягоную адзіноту развейвалі шматлікія блізкія для яго людзі з ліку творчай інтэлігенцыі. Ледзь не штодня наведвалася малодшая сястра Святлана, якая жыве ў Мінску. Сам ён апошнія гады не выходзіў з дому: быў слабы на ногі.

Вечарам сакавіцкага дня я пачуў сумную вестку аб смерці Ніла Гілевіча. Назаўтра ж паехаў у Мінск, каб развітацца. У храме на Нямізе каля ягонай труны выказаў спачуванні Нілавым сваякам.

Пра ўсенароднае прызнанне аднаго з класікаў айчыннай літаратуры сведчыла бясконцая плынь людзей, якія ішлі з букетамі ў руках, каб аддаць даніну павагі славутаму сыну беларускай зямлі...

# Два возеры Ніны Мацяш

Марыя НОВІК

Ніна Мацяш нарадзілася ў прыгожым палескім кутку. Нарадзілася ў прыгожай працавітай сям'і. Сям'і, якая мужна трывала сямейную бяду — трое дзяўчат-сясцёр напаткаў трагічны лёс: адмаўляліся ногі хадзіць. Ніна Мацяш на працягу ўсяго свайго жыцця шукала лекі, імкнулася быць незалежнай, ды паступова ўсё больш не побыт патрабаваў дапамогі сяброў. Стала самай рухомай, калі, нягледзячы на жыццёвыя абставіны, пачала актыўна бываць у коле пісьменнікаў, на з'ездах, вечарынах, на сустрэчах з вучнямі, студэнтамі, настаўнікамі.

Вёска Нівы, Белаазёрск — гэта прастора, дзе судакранаюцца з блакітам неба два вялікія возеры — Белае і Чорнае. «Другую спробу аўтабіяграфіі» Ніна Мацяш пачынае радкамі з верша-адказу на пытанне анкеты «Адкуль ты? Скуль ты родам?». І два возеры — Белае і Чорнае — як увасабленне лёсу чалавека, лёсу Радзімы. І працягвае: «Кажнюткі ў свеце чалавек плавае ў тых двух азёрах — у возеры вечнасці і ў возеры памяці...».

Творчасць Ніны Мацяш — гэта выява яе адметнага погляду на свет, на чалавека ў неабсяжным і неразгаданым Космасе, гэта адкрыццё, адтаемніванне сакральнага, спроба спазнаць жыццё чалавека — зямное і незямное. Гэта асэнсаванне жыцця чалавека — на зямлі і ў вечнасці.

Ніна Мацяш заслужыла ў сваіх удзячных сяброў, чытачоў словы шчырага захаплення, словы ўдзячнасці і любові. Была адорана талентам выказваць свае думкі, пачуцці, сваю трывогу і роспач, сваю тугу і радасць, свой боль і ўзнёсласць, любоў і святло родным словам. Невыпадкова называе яе Ніл Гілевіч так: *«Прыгожая ў матчыным слове ад Бога паэтка. Нязломная духам вялікамучаніца ў Бога. Заступніца і абаронца Любові, Святла, Дабрыні. Святлівая расінка Беларусі».*

Паэзія Ніны Мацяш набывае ў новым часе новыя адценні гучання, новае прачытанне. І голас яе непаўторна, прыгожа і чыста гучыць у шматгалоссі еўрапейскай паэзіі.

*Ранак. Узлесак. Снег нечапаны,*
*Вуснамі ветру прыцалаваны,*
*Небам дагледжаны,*
*ў неба загледжаны,*
*Голлем атулены,*
*долам прытулены...*
*Снежань. Узлесак.*
*Бель і сінеча.*
*Боская спакайнеча...*

Гэты глыбока псіхалагічны малюнак прыроды — адбітак унутранага стану, настрою, пачування ў бязмежнай зямной і незямной прасторы. Сімвалічным успрымаецца малюнак зімовага ранку, у якім — гармонія прыроды і душы, ціша, суладдзе красы, чысціні бялюткага снегу і сінечы неба: боская спакайнеча... Гэты малюнак звязваецца з апошнім прытулкам Ніны Мацяш: там, у прасторы шырокага поля, у бязмежжы сіняга неба, белі снегу развіталася яе душа з гэтым зямным светам. Па-іншаму ўспрымаецца верш цяпер, калі душа яе ў іншасвеце...

Пад вокнамі Ніны Мацяш раскашуе шыпшына — незвычайна прыгожая ва ўсе поры года, хоць, пэўна, найбольш яркая і непаўторная вясною, уся ў квецені, і восенню — уся ў яркіх ягадках. Ёсць у Ніны Мацяш верш «Шыпшына ў студзені». Шыпшына асацыятыўна звязваецца з самой паэткай: яна *слухае суладнейшую музыку аднаўляляных фарбаў у суглінку, размаўляе з вечнасцю цяпер.*



З бацькамі, пачатак 1960-х

Творчасць Ніны Мацяш дапамагае кожнаму спасцігаць таямнічыя галасы хваляў і Белага возера, і Чорнага, адчуць голас яе душы і сэрца, быць-плаваць у іх — *у возеры вечнасці і ў возеры памяці.* Яна здолела *ўтрымацца на хвалі лёсу*, каб пакінуць нашчадкам, сваёй зямлі геніяльную музыку свайго паэтычнага Слова. Гэтыя згадкі — працяг сумоўя з дарагою душою...

## «Была такой вясёлкаваю птушка...»

Давяраюся, давяраюся — давяраю сябе... Дазваляючы дапамагаць у сваім побыце, пані Ніна адкрывала ў тым, хто ёй дапамагаў, не, не фізічную сілу — хоць і гэта было важна: дапамагчы падняцца, перасесці з каляскі на ложак, з ложка ў каляску, з каляскі на крэсла ці ў ванную... Моцны фізічна чалавек раптам адчуваў пачуццё пэўнай слабасці, бяссілля перад фізічнай слабасцю яе і такою моцнаю сілаю духу. Аднак словы пані Ніны — а гэта былі словы-рухі — рабілі раптам цябе ўнутрана моцным, здольным рабіць разам з ёю рухі, крокі... Асабліва гэта было адчувальна, калі ты заставаўся з ёю сам-насам упершыню...

Памятаю, як упершыню мне давялося з ёю застацца на начлег у гасцініцы падчас яе вечарыны ў Берасці. І хоць да гэтага я шмат разоў бывала ў хаце Ніны Мацяш, нешта даводзілася ёй дапамагаць, але тады заўсёды побач была Галіна Скарына, а ў яе ўжо быў вопыт у абыходжанні з пані Нінай. Я памятаю тую ўнутраную трывогу, якая апанавала мяне: ці спраўлюся? Тады я адчула тую таямнічую сілу яе веры: верыла ў таго, хто быў з ёю, хто падтрымліваў яе ў яе кроках, разумела, што сіла духоўная, адказнасць за яе дае сілу рухацца разам. Яна прагаворвала мае рухі, крокі, дзеі — і ўсё рабілася... Дзіўна. Пасля ты ўжо і сам ведаў, як і што і за чым трэба зрабіць, але ўсё адно былі такія патрэбныя яе падказкі. Пані Ніна ведала гэта, аберагала, папярэджвала... Бо з часам жэсты, рухі, крокі змяняліся: яе фізічны стан, на вялікі жаль, пагаршаўся.

Пані Ніна паступова страчвала сілу самастойна рухацца. Як у кадры фільма — малюнкі рознага часу... Вось яна асцярожна рухаецца, трымаючыся-абапіраючыся за сцены пакоя, калідора... Бачу, як ідзе, трохі як бы хістаючы сябе, трымаючыся за высокі кій. Ён высокі, драўляны, моцны — сапраўдны посах... І калі бачыш гэта, робіцца страшнавата за яе рух, хочацца падстрахаваць яе, але пані Ніна ідзе...

Бачу, як кій-посах ужо самотна стаіць у куце, а ўжо ты можаш стаць такой жывой апіркай — бо каб рухацца, трэба стаць ёй насустрач, твар у твар, падхапіць яе моцна і так ісці, адступаючы назад, не баючыся, бо «вядзе» ж цябе пані Ніна!.. Чамусьці вельмі часта ў такія хвіліны, падчас нашага перамяшчэння, нас разбіраў раптовы смех — ад нейкага слова, жарту, вобраза. Пані Ніна заходзілася бязгучным смехам, аж слёзы з вачэй!.. Ад смеху такога сіла ў руках некуды знікала, аднак рух пасля невялікага перапынку працягваўся. Такое своеасаблівае выпрабаванне смехам?.. Ды так добра было і ёсць ад таго нястрымнага нашага смеху...

Неўзабаве прыйдзе час, калі ўжо не трэба будзе быць «апіркай», не трэба будзе ісці разам... Можна толькі дапамагчы падняцца з каляскі ды пастаяць каля стала: пані Ніна, стаўшы спінаю да стала, абапершыся на не надта моцныя рукі, а ты побач... Стаяла так. Паглядала ў акно. І было добра і глядзець разам, і гаварыць, і маўчаць... Не думалася, што і гэта міне. Наступіць час, калі і пастаяць так ужо не стане сілы...

## Каляска

Паратунак быў у калясцы з электрарухавіком. Яе дапамогуць атрымаць нямецкія сябры. Памятаю, як прыехаўшы ў Германію, у Берлін, Ніна Мацяш — у краме калясак. Іх мноства! Яна проста не можа надзівавацца. Не ведае, якую ж выбраць. Ускліквае: «Во гэтую! Буду да бацькі ездзіць!». Паказвае на вялізную каляску з высокімі-высокімі коламі. У некаторых — непрыхаванае здзіўленне... Пані Ніне дазваляецца выбіраць. Апынуўшыся ўпершыню ў калясцы, рух якой рэгулюецца невялічкім рычажком, які вельмі рэагуе нават на нязначныя павароты ўлева-ўправа, уверх-уніз, пані Ніна зрабіла даволі вялікі круг, праехаўшы па не надта шырокім праходзе, не зачапіўшы нічога, хоць там стаяла многа разнастайных калясак, і так хораша-плаўна, лёгка вярнулася на ранейшае месца і адкрыта-міла ўсміхнулася... Тут задзіваваліся ўсе, не паверылі, што яна ўпершыню кіруе такой «тэхнікай»...

Пані Ніна пачувалася шчаслівай: нарэшце будзе каляска, у якой яна зможа рухацца самастойна! Ад «вулічнага» варыянту адмовіліся, выбралі больш далікатную, аднак надзейную... Радасць, праўда, прыгасла, калі аказалася, што гэтую каляску нельга забраць з сабою, што гэтым разам афармляецца заказ і ёй у хуткім часе зробяць такую самую...

Светлая памяць Норбэрту Рандаву, падзяка Міцю Ярашэўскаму — да іх звярталіся потым не раз, калі нешта разладжвалася ў яе «машыне»... Здавалася б — усяго толькі каляска!.. Як жа яна дапамагла пані Ніне ў яе жыццёвым руху! Дадала ўпэўненасці, радасці, аптымізму, свабоды. Пані Ніна стала вольнаю ў сваёй новай прыгожай кватэры (гонар і ўдзячнасць былому дырэктару электрастанцыі спадару Баярчуку, намаганнямі якога была спраектавана гэтая кватэра і выдзелена пані Ніне). Было прыемна ад радасці пані Ніны, калі яна рухалася з пакоя ў пакой, на кухню, на балкон... Сама. Ты толькі паспявай за ёю... Стала вольнаю і па-за межамі сваёй кватэры. Сама ездзіла ў вёску Нівы ў родную хату, да свайго бацькі...

## Кладачка

Помніцца і няблізкае падарожжа да Чорнага возера. Пані Ніна — у гурце сяброў, студэнтаў (яна нават пакрыўдзілася, уведаўшы, што мы сабраліся ў тое падарожжа без яе). І вось пані Ніна — на праезджай частцы вуліцы Леніна ў Белаазёрску — проста імчыць! А мы — з тратуара — гукаем і даганяем яе, і хвалюемся — машыны ж побач! — а яна толькі шчасліва нам усміхаецца ды імчыць далей... Як гэта ўсё ж добра — вось так разам... І хто ж тут больш рухомы і рухавы?..

Успамін пра тое наша падарожжа на Чорнае возера ў адзін з летніх прыездаў у Белаазёрск са студэнтамі і сёння прымушае трывожыцца сэрца, нават выклікае пачуццё віны. Пані Ніна сказала: «Я з вамі!» — і пярэчыць ёй было бессэнсоўна. Вядома, з ёю наша вандроўка набывала зусім іншы сэнс... Праз гады не сціраецца з памяці: у гурце, як каралева, рухаецца Ніна Мацяш. Было добра, пакуль рухаліся па шашы. Але ж потым пачаўся лес, дарога з калдобінамі, ды яшчэ пачалі апаноўваць камары... Пані Ніна мужна трывала такія нечаканыя перашкоды. Было, аднак, трывожна за такія перагрузкі. Яна ж больш, мабыць, перажывала за каляску: каб толькі што не разладзілася... Узброіўшыся галінкамі, старанна махалі над пані Нінай, адганяючы камароў, ды ў душы праспешвалі выхад з нізкага лесу... Возера адкрылася — стала светла, спакойна, камары зніклі. Дзяўчаты пайшлі купацца ў Чорнае возера. Дно, аднак, было ў яго не пясчанае... Вада не блакітная... На тое яно і Чорнае. Добра было сузіраць з берага прастрань неба і вады... Гаварыць і маўчаць... З пані Нінаю...

Выхад назад аказаўся зусім іншым. Пайшлі дарогай праз поле, а не праз цёмны лес. Дарога добрая. Пані Ніна рухаецца лёгка, каляска не мае перашкодаў. Ды тут — нечаканае новае выпрабаванне. Мы апынуліся перад мосцікам, а мосцік той — бетонная пліта шырынёю не болей як паўтара метра. У страху мы схапіліся за каляску... Спыніліся. Прапанавалі вярнуцца назад і пайсці ўжо вядомым шляхам. Пані Ніна, аднак, вырашыўшы ісці наперад, катэгарычна сказала не брацца за каляску, каб кіраваць і падтрымліваць: «Тут вы мне не памочнікі. Вы мяне не ўтрымаеце...». І страх, і роспач, і віна ад немагчымасці дапамагчы ёй у гэтым руху праз вузенькі мосцік над рэчкаю. А пані Ніна ўпэўнена скіравала на шэры бетон... Мы застылі, а яна пакаціла — так роўна-роўненька, не схіснуўшыся ні ўлева ні ўправа... Калі яна апынулася на другім беразе, мы рушылі за ёю! І радасці нашай не было краю... А ў душы — усё адно — і страх, і віна: як можна было адпусціць яе па такой вузкай небяспечнай сцяжыне?..

Прайшлі вёскаю, паглядзелі на браму Пуслоўскіх, выйшлі на шлях, на Белаазёрск. Мабыць, і прытаміліся, і сцішыліся ад перажытага... Ды раптам чуем ад пані Ніны: «Дзяўчаты, а чаму не спяваеце?». Выбухнуў дружны смех... Ну і ну!

Пані Ніна шчаслівая вяла нас за сабою...

## Набор «у сляпую»

Пані Ніна асвоіла кампутар раней, чым я. Праўда, і яна доўга заставалася ў рэаліях учарашняга дня. У час, калі ўжо многія авалодалі кампутарнай тэхнікай, пані Ніне прапанавалі на выбар: новую, палепшаную друкарку ці невялікі кампутар. Хоць і пераконвалі мы яе на карысць кампутара, яна засумнявалася, ці справіцца з новай тэхнікай, і выбрала прывычнае — «палепшаную» друкарку... Аднак у хуткім часе пераканалася, што кампутар — цудоўная рэч, што не трэба нічога больш перадрукоўваць-папраўляць з-за надрукаванай не той літары ці слова або пасля заклейваць не тыя літары ці словы... Кампутар стаў паратункам для яе не надта моцных рук. Клавішы былі лёгкія і паслухмяныя...

Аднойчы, будучы ў гасцях у пані Ніны, мы абмяркоўваем, як каму працуецца на кампутары. І тут пані Ніна шчыра дзівуецца: як, вы не ўмееце друкаваць «у сляпую»?!. І вось ужо я за кампутарам пані Ніны, слухаю яе заданне: вось інструкцыя — я павінна 20 (?!) разоў выканаць адпаведныя практыкаванні, не пазіраючы на клавіятуру і працуючы ўсімі пальцамі... ды яшчэ дзвюх рук!.. Заданне я праваліла, нічога з маёй навукі не выйшла... Пані Ніна не хавала расчаравання... Сітуацыю ратаваў гумар, а пасля — нашы гаворкі, вершы пані Ніны, песні...

Гартаю стос сшыткаў, спісаных прыгожым акуратным почыркам пані Ніны... Яны ўсе ангельскую мовaю... Сама, праз праграму «Ешка», асвойвала яшчэ адну замежную мову. Не стамлялася выконваць безліч практыкаванняў... Яшчэ адзін знак сілы волі Ніны Мацяш, яе настойлівасці, руху наперад...

Заканчэнне на стар. 4 »

# Два возеры Ніны Мацяш

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3

## Парыж

Гэта быў падарунак пані Ніне ад яе сяброў. Гэта быў падарунак мне і Галі Скарыне ад пані Ніны. Пані Ніна любіла французскую мову, літаратуру, найбольш пераклала менавіта з французскай. Захаплялася паэтамі Плеяды, прывяла ў Беларусь «Маленькага прынца», «Маленькага Нікаля», Франсуа Жакмэна, амаль усяго Антуана дэ Сент-Экзюперы... Я ў той час захапілася імпрэсіяністамі, пачала іх для сябе адкрываць праз біяграфічныя кнігі, рэпрадукцыі карцін... Жартавалі пра паездку ў Парыж. Якое ж было маё здзіўленне, калі праз нейкі час яна сказала: «Мы едзем у Парыж!..»

Парыж быў дзівосны! Як многа мы падарожнічалі!.. Амаль тыдзень у Парыжы. У сваім утульным доме-аўто. Вядома, і сабор Парыжскай Багамаці, Елісейскія палі, Мон-Мартр, і музеі, дзе — у арыгінале — і Монэ, і Манэ, і Ван Гог... І Сена з рухавымі цеплаходзікамі ў рознакалёрным святле ліхтарыкаў... І музыка, музыка, музыка на вуліцах Парыжа... Было адчуванне нерэальнасці, дзіва. І зноў і зноў — адкрыццё пані Ніны, яе трывушчасці. Засталіся ў памяці парыжскія брукаванкі і такая няроўная хада каляскі... Было за яе трывожна: як яна трывае, ды ўвесь час чулі яе суцешлівы голас, што ёй нічога не замінае і нічога не шкодзіць. Загаворвала па-французску ў крамах, з нашымі спадарожнікамі, і так міла гучала з яе вуснаў французская мова... Радавалася, пачуўшы добрыя водгукі пра яе французскае вымаўленне, а з намі жартавала: «Вучым французскую: бонжур, сільвупле, жэтэм...» І заходзілася ад смеху ад нашага вымаўлення...

Ліон. Мы ў прыгожым белым-белым храме. Паслухалі змястоўную інфармацыю спадара Ёзафа, паўзіраліся ў лікі святых... У храме ціша і светлыня. Застаўся адтуль такі малюнак-кадр: пані Ніна перад абразом Ісуса Хрыста... Засяроджаная, сцішана-малітоўна застыла ў сваім маленні, доўга не азывалася, каб рушыць далей... Гэты воблік яе і сёння выклікае ў душы балючыя перажыванні...

## Гота

Міца Ярашэўскі і ягоная сям'я падарылі нам цёплае гасцяванне ў іх доме. Падарожжа па старых гарадах Германіі пакінула незабыўныя ўражанні. Дом-музей Гётэ, дом Франца Ліста, дом-музей Шылера ў Веймары...

Прыезд у Готу Барыса Кіта і яго сяброўкі Тамары. Ад успаміну пра гэтую дарагую сустрэчу і сёння добра на душы. Было так утульна, прыязна, усмешліва. Мілы дворык Ярашэўскіх. Бадзёры, імклівы Барыс Кіт. Радуецца, усміхаецца, абдымае і цалуе пані Ніну... І распытвае, пытаецца, а пасля сам апавядае. І так многа жартуе, расказвае смешныя показкі. Пані Ніне прыемна, што славуты беларус, такі гжэчны і такі прыязны, так міла смакуе «Белавежскую», і прыемны яму і сам напой як напамін пра сваё, і шчырая родная гамонка. І ўвесь час такі рухавы, такі клапатлівы, такі ўважлівы... Пані Ніна ўсцешана бясконца...

Была ціша і ўтульнасць, шчырая прыязнасць Міці і Ангелікі Ярашэўскіх ды іх дзяцей Мішы і Каці. У ціхім дворыку адпачывалі пасля падарожжаў, тут нарадзілася яе мілае «Рандо», якое было і



Ніна МАЦЯШ за працоўным сталом

ёсць для мяне праявай сардэчнай удзячнасці пані Ніны і вясёлай згадкай пра наша падарожжа...

## Золата дня

Тэрнопаль. Прыехалі не проста ў госці да ўкраінскага сябра Ніны Мацяш, а шукаць рады да лекара з экстрасэнсорнымі здольнасцямі. Не трацім надзеі, што можна знайсці ратунак ад хваробы пані Ніны...

Застаўся на ўспамін з таго падарожжа прыгожы малюнак. Восень. Мы ў парку ля возера. Восень залатая. На зямлі — рознакалёры дыван з кляновага лісця. Пані Ніна — узнёсла-мажорная ад сузірання на такую ціхую райскую мясціну. Пара бабінага лета. Пяшчотнае сонца. Пані Ніне добра ў прамянях гэтага ласкавага сонца. А я, Ліда Якута, Галя Скарына з раскрыленымі рукамі ляцім у лісцевае золата... Пані Ніна шчасліва смяецца... Што ж яшчэ было ў яе на душы ад таго нашага палёту ў залатое лісце?..

## Самотная птушка

Белаазёрск. Прыехалі са Святланай Варонік. Кватэра ў пані Ніны зачыненая. Ніхто не адказвае. Ідзем шукаць. Недалёка — дзіцячы садок. На яго падворку бачым пані Ніну. Адна. Пад промнямі не надта ўжо цёплага сонца. На каленях — «Доўг памяці» Уладзіміра Калесніка. Убачылася такою самотнаю птушкай...

Былі і прыгожыя выявы: мы разам у дворыку каледжа, там многа кветак. Прыгожа! І пані Ніна сярод іх — райская птушка... Мы хочам слухаць яе, яна хоча пачуць нас, мы і гаворым, і галасна смяёмся, і так добра і родна ў гэтай кветкавай прасторы...

А то вось яна разам з шчабятлівымі птахамі — студэнтамі ўніверсітэта, што прыехалі са сваёй выкладчыцай Святланай Варонік на фальклорную практыку. Мы ў бярозавым гайку, студэнты пані Ніне — букецік лугавых кветак, а яна ўжо дорыць нам свае касеты з вершамі і песнямі...

І самотная птушка не была самотнай, калі адна сядзела ў любімых мясцінах свайго невялікага гарадка, назірала-сузірала, апранала ў словы ўбачанае і пачутае, каб падарыць свету прыгожы вянок санетаў «Бабіна лета ў Белаазёрску»...

Было незабыўнае золата восені разам з Нінай Мацяш у невялікім скверыку, калі сустрэлася нам група дзяцей. А на зямлі — мора залатых лістоў. О — цудоўны здымак на памяць. Нехта з нас ужо раіць: «А вы падыміце лісточкі!» І тут — узмах — і ўсе разам, дружна, рукі з каляровымі лістамі ўзляцелі над галавой пані Ніны. І мы — не можам стрымаць усмешак і смеху...

Застаўся гэты мілы здымак залатой прыродна-людскай кароны Ніны Мацяш...

## Голас

Садзімся ў Берасці ў цягнік. У ім — пісьменніцкая дэлегацыя з Менску: Васіль Быкаў, Анатоль Кудравец, Адам Мальдзіс, Вольга Іпатава, Алесь Разанаў, Уладзімір Арлоў. Радасць сустрэчы... Праз нейкі час да нас у купэ прыходзіць праведдаць Алесь Разанаў. Праз нейкі час — яго даволі нечаканая прапанова-просьба — паспяваць... Пані Ніна з радасцю адгукаецца, я ж у душы трошкі збянтэжаная: тут, цяпер — паспяваць?!. Ды пані Ніна ўжо завяла любімую Алесеву... Голас у яе высокі-высокі, мне здаецца, што аж занадта высока ўзяла пані Ніна. Я не зусім пападаю ў гэты яе высокі тон «другім» голасам. Кажу: «Вазьміце крыху ніжэй...» Ды Алесь так адразу патрабавальна-катэгарычна, нават трохі спалохана: «Не-не, не трэба!..» Той голас пані Ніны быў нябескі...

Ісдач. Міжнародны семінар перакладчыкаў. Пані Ніна прапанавала быць з ёю падчас гэтага семінару (я на той час вучылася ў аспірантуры ў Менску, і пані Ніне не трэба было турбаваць каго з сваіх сябровак з Белаазёрска). Пані Ніна была атулена ўвагаю замежных гасцей, пазнаёмілася з перакладчыкамі, пасябравала з Норбертам Рандавым, Момчыла Джэркавічам і многімі іншымі... І побач — дарагі, абаяльны Янка Брыль. Высокі, прыгожы, усмешлівы. У фае нейк спантанна ўтварылася сяброўскае кола — міжнароднае... І фае — пасля вясёлых гутарак робіцца песенным: на розных мовах загучалі песні, а сярод галасоў і сёння найвыразней чуецца густы, сакавіты, такі каларытны голас Янкі Брыля і высокі, узнёсла-недасягальны Ніны Мацяш... Як гэта было гарманічна-ўзвышана, душэўна-глыбока і так прыгожа і цёпла...

...У хаце ў пані Ніны жаданы госць — Уладзімір Андрэевіч Калеснік. Пані Ніна шчыра радуецца: такая дарагая для яе сустрэча! Тут і Галя Скарына, і Валянціна Кукса, і я. Адкуль узяліся песні? Хто падаў такую ідэю? Магчыма, Уладзімір Андрэевіч. Любіў народную песню, выкладаў студэнтам фальклор, арганізоўваў запісы народнай вусна-паэтычнай творчасці ад жывых яе носьбітаў. Пані Ніна лёгка і з радасцю прыняла ідэю: спяваць У. Калесніку. Спяваем... Пані Ніна заспявае. Скончыўшы адну, распачынае другую. Стараемся весці зладжана, гарманічна. А голас пані Ніны лунае так высока-высока... Ужо і песні, і душы робіцца вольна. Якое ж было наша здзіўленне, калі, зірнуўшы на Уладзіміра Андрэевіча, убачылі, што ён змахвае з вачэй слязу... Таямніца і песні народнай, і голасу...

Было трохі дзіўна і нечакана, калі пані Ніна падчас аднаго з прыездаў у Белаазёрск, калі мы так утульна ўселіся на канапе, пачала спяваць свае вершы... Гэты голас (сёння яго можна пачуць — запісаны на дыску) здзівіў чамусьці мяне такой пранізліва-тужлівай інтанацыяй. Столькі было ў ім самоты, кволасці... Здавалася, вось-вось не хопіць дыхання, голас вось-вось заціхне... Ды не. Пані Ніна вяла не надта гучна, але даспеўвала, трымаючы адпаведны тон і ноту... Як выказвала-выяўляла сваю долю, свой лёс... Шчымела і шчыміць ад таго нягучнага і такога моцнага яе голасу...

## «О цэ нэ трэба ворога любыть...»

З Германіі вяртаемся праз прыпынак у Берасці. Чакаем транспарт з Белаазёрска. Пані Ніна ў мяне дома. Пакуль я завіхаюся на кухні, сустрэчы з пані Нінай радуецца Святлана Варонік. І нейкім дзіўным чынам гаворка іх пераходзіць на ўкраінскую паэзію, на творчасць Ліны Кастэнкі. Святлана спяшаецца паказаць пані Ніне, як яна навучылася чытаць па-ўкраінску. На памяць гучаць «Грай, Марко, грай!», «Рагнеда». Я чую не толькі чытанне, але ў хуткім часе і ціхія ўсхліпы пані Ніны: яна заходзіцца бязгучным смехам, учуўшы такое артыстычнае чытанне з такім выразным, чыстым беларускім акцэнтам, што не ўтрымліваецца і амаль «складваецца» — ледзь не ляціць з канапы... Адыходзім ад узрушэння, супакойваемся, і раптова зноў — заходзімся ад смеху... І кожны на свой лад паўтарае: «О цэ нэ трэба ворога любыть...»

## «Зараз прыйдзем...»

Падарожжа ў Берлін было звязана з надзеяй на дапамогу ў лекаванні пані Ніны. Так спадзявалася яна знайсці лекі ад гэтай жорсткай хваробы, так намагалася вярнуцца да самастойнага руху... Так жадалі гэтага яе родныя, блізкія людзі... На жаль, кансультацыя ў Германіі не дадала надзеі на паляпшэнне...

Вярнуліся з Берліна. У пані Ніны была дамоўленасць, што на зваротным шляху завітае ў госці да Зосі Міхайлаўны і Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Пераначаваўшы ў мяне, сабралася ў госці. Тэлефаную раніцай Уладзіміру Андрэевічу. Кажу ў адказ на яго запрашэнне: «Добра, зараз прыйдзем...» І тут — у адказ — праз даволі працяглую (і незразумелую для мяне) паўзу — вокліч Уладзіміра Андрэевіча: «Прыйдзеце?!!» І ў гэтым «Прыйдзеце?!!» — і радасць, і здзіўленне, і недавер, і... Столькі там было эмоцый на такі мой спакойны і бадзёры адказ... І тут разумею: гэта ж я сваім «прыйдзем» (так прывыкла гаварыць, будучы з пані Нінай, калі мы ішлі пехатою, а не перамяшчаліся на машыне) выклікала гэты вокліч-выдых-спадзяванне на цуд у лекаванні пані Ніны... І расчараванне...

Было добра ў гасцях, пані Ніна цешылася ад сустрэчы, атуленая ўвагаю гаспадароў хаты, ахвотна распавядала пра падарожжа... Я старалася не надта сустракацца позіркам з Уладзімірам Андрэевічам: пасялілася ў сэрцы пачуццё віны — гэта ж трэба было ў адно імгненне абнадзеіць і гэтак жа раптоўна расчараваць яго...

## «Ёсць толькі шлях...»

Прыснілася мне пані Ніна неўзабаве пасля яе адлёту ў Вечнасць... Многім, мабыць, дала свае знакі. Мяне як бы заспакоіла, як сказала-паказалася: вось я! Адначасна і затрывожыла...

Выбегла да мяне з пакойчыка — аднаго з многіх, размешчаных па абодва бакі калідора, як усё адно ў гасцініцы ці ў інтэрнаце, а мо ў манастыры?.. Выбегла так імклівая, лёгка... Сустрэліся як? — позіркамі, усмешкамі, на адлеглaсці... І гэтак жа хутка, імклівa яна юркнула ў сваю келлю. Чамусьці прыйшло тады адчуванне, што гэта яе келля... Пры жыцці гаварыла, распавядаючы пра свае сны, што ў снах яна заўсёды добра рухаецца, ходзіць самастойна, ніякая хвароба ёй не замінае...

З'явілася мне — як паслала напамін: рух — жыццё... А ў мяне — і трывожнае: не надта бяруцца выдаўцы за выданне яе цікавай спадчыны, з якой даверылі мне працаваць яе спадчыннікі... І ўсё ж — мужная, таленавітая паэтка была і ёсць у імклівым руху... Бясконца дарагім руху яе сэрца, яе душы...

## «На спуску...»

Не-не і паўстае ў памяці сустрэча ў пані Ніны, у яе кватэры, «на спуску» — гэта выхад з яе кабінецікa на вуліцу — бетаніраваная дарожка, зверху накрытая, а з бакоў — закрытая празрыстаю сеткаю-агарожаю. Па гэтым спуску пані Ніна можа сама выязджаць на калясцы з кватэры і кіравацца туды, куды хоча: ці ў госці да бацькі, у вёску Нівы, ці ў скверык — пагрэцца на сонейку, пачытаць, набрацца новай энергіі, уражанняў. Так, магчыма, нарадзіліся многія яе творы. Гэтым разам на спуску — не з'ехаць уніз: усё занята студэнтамі з Брэсцкага ўніверсітэта. Студэнты разам з выкладчыкамі — госці пані Ніны. Яна — перад студэнтамі, на вышыні спуску, наперадзе яны, маладыя, радыя, усцешаныя такою сустрэчаю з паэткай, якую ведалі толькі па вершах, па лекцыях выкладчыкаў. Цяпер жа — яна радасна вітае іх, гаворыць з імі, усміхаецца, чытае, на іх просьбу, вершы...

Развітваемся... Студэнты выходзяць, вызваляюць спуск, стаяць ужо ў дворыку... А за імі — самастойна, плаўна і прыгожа — спускаецца пані Ніна. Усе — у ціхім здзіўленні, у радасным узрушэнні... Вялізны аўтобус — поўны студэнтаў — праводзіць Ніна Мацяш.

Гэты спуск успамінаецца не раз... І ў сувязі з прыкрым рашэннем белаазёрцаў — суседзяў, уладаў — пра немагчымасць адкрыць у кватэры Ніны Мацяш музей, бо «ён будзе замінаць суседзям, парушаць спакой жыхароў дома, тут будзе шумна ад турыстаў, наведвальнікаў...»

Тут было заўсёды людна ад добрых людзей, ад творчых людзей, якім было ўтульна і цікава ад сустрэчы з геніяльнай творчай асобай, паэткай, мужным чалавекам.

Яна, пані Ніна, дала ўсім магчымасць сузіраць, як можна жыць, перамагаючы жорсткую хваробу, як можна ствараць «поле роднасці душ» з людзьмі з розных куткоў Беларусі і замежжа...

Музей Ніны Мацяш дэманстраваў бы свету не толькі культуру багатага бярозаўскага краю, Беларусі, але і стаўленне грамадства і ўлады да людзей, да кожнага чалавека, якія патрабуе дапамогі, увагі...

Давермася Ніне Мацяш... І свет папрыгажэе, падабрэе, пасвятлее... І адкрыюцца два возеры Ніны Мацяш: Белае і Чорнае... *Возера Вечнасці і возера Памяці...*

# «У сям'і нарадзілася ціша…»

***Ганна Шакель. Цела Мігдалу. — Мінск, выдавецтва «Энцыклапедыкс», 2023.***

Некалькі тыдняў запар я амаль штодзень зазірала ў гэты паэтычны зборнік. Прачытала раз, пачала спачатку… А надоечы кніга стала пераможцай прэміі Наталлі Арсенневай за 2023 год, то самы час пра яе напісаць.

*паэзія — котка*
*ліжа ранкі*
*шурпата*

Як зазвычай бывае ў мяне з паэтычнымі зборнікамі: адчула не ўсё і не з першага разу. Але было тое, што трапіла ў сэрца імгненна.

*сны — гэта кнігі*
*што пішуць нам*
*нашы памерлыя*
*таму і варочаюцца*
*ўначы*
*пад коўдрай*
*павекаў*
*вочы*
*бо чытаюць*

Найбліжэйшая з усіх тэмаў, якія ў мяне атрымалася счытаць тут, — тэма роду, каранёў. Гэтыя вершы вельмі цёплыя і вельмі балючыя. З іх сочыцца любоў — чырвонымі кроплямі.

*баба Маня нарадзілася*
*ў сям'і з палямі, сенакосамі і лесам.*
*бацька ведаў, як сабраць радыё,*
*і не жадаў ведаць ні кукарэку*
*ад чалавека*
*пад сталінавым партрэтам.*

*радыё,*
*палі, сенакос і лес*
*забралі разам з бацькам.*
*у сям'і нарадзілася ціша…*

Мая любоў — вельмі кароткія і вельмі канцэнтраваныя вершы. Магчыма, таму, што я часта магу згубіцца і разгубіцца, калі верш занадта вобразны, складаны і прыгожы. Але мне ўсё ж прыемней думаць, што кароткі тэкст — гэта як скачок у палонку: хоп — і ты ўжо ўся ў ім.

*бог як кісларод:*
*чым бліжэй да зямлі,*
*тым у грудзях яго болей*

А пра кнігу яшчэ хочацца сказаць, што яна вельмі прыгожая. Ілюстрацыі, папера, шрыфт, вёрстка, — ваш унутраны эстэт будзе ў захапленні. Можа быць яшчэ і таму я ўсё гартаю і гартаю яе, перачытваючы то адзін верш, то другі ўжо цягам некалькіх тыдняў.

*каленка сонца вытыркаецца*
*з дзірак аблокаў*
*зімовы дзень мне*
*па сярэдзіну лыткі*
*я плятуся*
*калоцячыся*



*дадому*
*як падлетак*
*ці то халадна*
*ці то страшна.*

*З анатацыі да кнігі:* «"Цела мігдалу" — дэбютная кніга Ганны Шакель. Паэтка даследуе чалавечую душу і яе шлях праз род, карані і памяць; паэзія ў гэтым зборніку — спосаб гаварыць пра мінулае, якое не дае спакою. У вершах спалучаюцца біблейскія вобразы і фальклорныя матывы. Творы ў кнізе ствараюць цэльны наратыў, у цэнтры якога — канцэнтраваная беларуская рэфлексія над сабой і светам. Кампазіцыю кнігі трапна завяршаюць пераклады вершаў Дэвіда Герберта Лоўрэнса».

***kniznyja razmovy***

# «Народная культура для малодшых класаў»

***Аксана Спрынчан. Народны каляндар школьніка. — Мінск, «Мастацкая літаратура»***

У чым я канчаткова заблытаўся па гэтым часе, дык у дызайне і малюнках дзіцячых кніг. Ну от, напрыклад, як пачнуць хваліць нейкую кнігу дзіцячую за яе аздабленне, а я гляджу… Як той герой байкі на вядомы атрыбут сялянскай сядзібы. Іншым разам мне падаецца, што малюнкі рабіліся не для дзяцей, а каб здзівіць дарослых: гэтай нібыта свежасцю, арыгінальнасцю… Ці вядомы расійскі лубок. Ці яшчэ нешта такое… На што глядзець сумна.

Таму пра малюнкі і дызайн гэтай кнігі ў выкананні Наталлі Арцёмавай я скажу хіба адно: мне падабаецца. Найперш таму, што стыльна і цікава, адначасова — не загрувашчана колерамі і шрыфтамі. Хоць загалоўкаў і падзагалоўкаў у кнізе — бы малькоў на водмелі па цёплай вясне. Увогуле, адчуваецца, што задума-канструкт аўтаркі супала з бачаннем гэтага канструкта ў мастака. І гэта пры тым, што пабудова кнігі — надзвычай складаная. Але выкананне такое, што ў выніку ўся складанасць пераўтвараецца ў адну вялікую цікавостку. Зусім не складаную для разумення школьнікам пачатковых класаў.

Такім чынам, адзначу першую асаблівасць кнігі, якая робіць яе непадобнай да іншых: гэта не проста чытанка-маляванка. Тут цэлы комплекс — сама гісторыя свята і вакол яго: стол святочны, звычаі, абрадавыя дзеянні; песенна-музычнае суправаджэнне; гульні і загадкі; розныя прапановы да актыўнай дзейнасці юнага чытача; гісторыя рэальная. Вядома, для вялікага свету такая кніга не навіна. Але для нашай Беларусі — відавочная навінка. У кожным разе — падобныя рэчы з'яўляюцца не часта.

Што тычыцца выбару свят і іх тлумачэнняў. І ўвогуле, ці трэба такое. Помніцца, у адной школе настаўніца пры сустрэчы расказвала, як яна з дзецьмі калядавала. А калі папрасіў распавесці пра сэнс свята, то пачуў такое, што стала вельмі сумна. Таму, бясспрэчна, такое — трэба. Настаўнікам, работнікам культуры, якія іншым разам чэрпаюць свае веды пра народныя святы з інтэрнэту, і часам у іх сцэнарыі такі вінегрэт, што хоць святых вынось.

Ведаю добра, што сам бы я такой кнігі не напісаў. Бо ж пра адны Калядны у мяне б было тэксту воз вялікі і яшчэ рэзгіны. Вось тут і выявіўся выключны талент аўтаркі: выбраць аснову, паказаць галоўнае, размясціць акцэнты. Так, каб не перагружаць інфармацыяй малога чытача, але адначасова выклікаць цікавасць да свята і падзеі. Гэтая кніга не проста напісана — яна арганізавана, за знешняй простасцю — вялікая праца. А напісана наўпрост цікава, тэкст пададзены як даверлівая размова, у аснову ўзята самае адметнае, выключнае, і пры ўсім — запамінаецца. Факты і гісторыя расстаўленыя лёгка і нязмушана. І яшчэ немалаважнае: акцэнт зроблены на павагу да святаў і традыцый. Пакуль Аксана Спрынчан прапануе, па вялікім рахунку, дзіцячыя забавы — але забавы не простыя, а напоўненыя адметным сэнсам. Забавы сезонныя, прывязаныя да пэўных дат. Што адсюль вырастае? Вось…

Ці ёсць патрэба гаварыць пра важнасць кнігі ў сэнсе далучэння чытачоў да народнай культуры ets? Скажу адно хіба: быў бы я міністрам адукацыі, была б гэтая кніга як аснова абавязковага прадмета, назавём сходу так:




«Народная культура» ў малодшых класах.

Калі вы маеце пад рукой «Закон Божы» ў некалькіх кнігах, зірніце на першы том: ён пачынаецца з самых простых тлумачэнняў і дэфініцый, гэты том — для людзей з мінімальнай адукацыяй ці дзяцей-падлеткаў. А далей — ужо складаней. Міжвольнае параўнанне «Народнага календара школьніка» з першай кнігай «Закона Божага» такім чынам узнікла ў мяне зусім не выпадкова. Бо і там, і там — азы ведаў, тое, на чым грунтуецца далей веданне глыбейшае.

Гэта добрая кніга. Ва ўсіх сэнсах. І асабліва ў яе глыбіні. А на фоне той аляпаватасці (і дадам — часам элементарнай непісьменнасці) іншых дзіцячых кніг, якімі сёння перапоўненыя кнігарні (бо ж для дзяцей пісаць так проста: прыдумляй розную ахінею ды выхоўвай абавязкова, парады давай…) гэта ўзор.

*З анатацыі:* «У пазнавальнай і арыгінальнай кнізе "Народны каляндар школьніка" дзеці даведаюцца пра народныя беларускія святы. У кнізе лучацца традыцыі і сучаснасць. Матэрыял пададзены з жывым захапленнем і любоўю. Кніга дапаможа бацькам і настаўнікам святкаваць і выкарыстоўваць заданні на ўроках і пазакласных мерапрыемствах. Калі мы святкуем — нашыя народныя святы жывуць. Яны жывыя, пакуль мы з імі. Святкуйма!».

***В. Г.***

# «Экзістэнцыйная фантастыка»

***Антось Уласенка. Рунь дасонечных зярнятаў. — Вільня, 2024.***

Малады пісьменнік Антось Уласенка сабраў пад адной вокладкай сваю кароткую прозу. Вынікам стала электронная кніга «Рунь дасонечных зярнятаў».

Вы адчуваеце, колькі моцы ў загалоўку? Колькі ў ім інтрыгі, таямніцы, паэзіі і лёгкасці?

Вас бянтэжыць слова «дасонечных»? Не пераймайцеся: аўтар усё патлумачыць. Навукова.

Што мяне яшчэ ў ранейшых тэкстах уражвала, дык дасведчанасць і начытанасць Антося Уласенкі, сваім апірышчам у тэкстах ён абірае грунтоўныя веды.

І вось я разгортваю чарговую кнігу Антося…

У мяне тры гадзіны дарогі, я ў прадчуванні асалоды скачваю файл у добрым фармаце, пачынаю чытаць… Аўтар мяне падмануў!

Усё, як і раней. Першыя старонкі — і праз тры словы адно невядомае. Але — ты яго зразумееш, не бойся, даверся аўтару, прачытай далей, яшчэ далей… Ты быццам заходзіш у незнаёмы і страшны лес, не бачыш ні сцяжынак, ні прасвету, але пакрысе, крок за крокам, — ты пачынаеш разумець прыроду вакол сябе. Ты чуеш ужо дыханне дрэў і гаворку лістоты, ты ідзеш далей і глыбей, а лес вабіць, прыцягвае, адкрывае адну за другой свае таямніцы…

І тут бац — лес скончыўся!

Гэта было неверагоднае расчараванне для мяне — дачытваць, бо кожная гісторыя прагнула працягу. Не, не таму, што заставалася загадка ці нешта было незразумелым. А таму, што ў самых сціслых абзацах нараджаліся героі. За якімі хацелася сачыць, іх лёс кранаў і цікавіў.

Антось Уласенка — талент, для мяне сёння гэта бясспрэчна. Яго проза пазнавальная, у яго свой асаблівы стыль. Ён не піша, каб некаму дагадзіць, трапіць у плынь мейнстрыму, заявіць пра сябе. Ён стварае тэксты. Менавіта — стварае, дасканала валодаючы пры гэтым сваім адмысловым інструментам — мовай, якая ў яго арыгінальная, своеасаблівая і, як па мне, смачная. Яшчэ адна асаблівасць прозы аўтара — інтэлектуальнасць. І, канешне, бязмежная фантазія, вобразнасць, багацейшая эрудыцыя.

Рэальнасць Антося Уласенкі — у большай частцы фантастычная. Ён сапраўды фантаст, у ягонай кароткай прозе, вось у гэтых быццам выхапленых з вогнішча вугольчыках, мне ўспамінаецца Брэдберы. Помніце, слынны фантаст апісваў не прыгоды і падарожжы з падрабязным тлумачэннем і таямніцай, а раскрываў перад намі невялікія эпізоды ўжо ўзніклага фантастычнага свету. Гэта фантастыка не прыгодніцкая, але экзістэнцыйная. І вось мы маем (кажу пра тое з ціхай радасцю) сапраўднага фантаста, якіх у нашай беларускай літаратуры пералічыць хопіць пальцаў аднае рукі. Аўтара, які не зацыкліваецца на асаблівасцях зроку калісьціянцаў (ну, жыхароў Калісты), але яскрава




перадае нам пакуты зямляніна, які пнецца пазнаёміць госцю з зямной навальніцай і зямной жа вясёлкай…

Гэтую невялікую кнігу можна лічыць і цалкам закончанай рэччу ў плане стыльнасці і падыходу да абраных тэм. А льга сказаць, што перад намі — рабочы нататнік пісьменніка. Гэта ў плане ўжо абрання тэм. Фантазія і скіраванасць думкі аўтара мяняюцца ад аднаго твора да другога, ягоную цікавасць абуджаюць самыя розныя рэчы, падзеі адбываюцца ў самых розных месцах (пры гэтым, з'яднаныя, часам, адной тэмай і адным загалоўкам). Калі мы, чытачы, адчуваем сябе разгубленымі ў незнаёмым лесе створанага аўтарам свету, дык недзе на другой палове невялікай кнігі аўтар бачыцца нам сам заблукалым у гушчары чалавечых пачуццяў і адвечных пытаннях быцця. Ён сам — нібы іншапланецянін на нашай Зямлі, аглушаны і асляплены, кранаецца кожнай быццам бы драбязы (што для нас) — і яна тлуміць ягоны розум, патрабуе адгадкі.

…Гадоў дзесяць таму я б дакладна мацюкаўся, псіхаваў, выгукваў рытарычныя пытанні. Цяпер пішу адно ўсім вядомае: дапамагаць трэба талентам, няздары праб'юцца самі.

Што і назіраем у наш час, і асабліва ў наш час, калі ўсім кіруюць трэнды і фонды. Не буду мышшу поўзаць па дубе, і так усё ўсім зразумела. Адно вельмі крыўдна, што ідзе імгненны розгалас пра нешта напраўду трэшавае, а насамрэч таленавітае будзе доўга церабіць дарогу да чытача.

Таму застаецца толькі чакаць. У тым ліку — і вялікага твора Антося Уласенкі. Мо гэта будзе і той сацыяльна-бытавы раман, сінопсіс якога тут змешчаны, дзе галоўны герой прыканцы глядзіць на зоры і намагаецца знайсці сябе ранейшага. Ці нейкі іншы. Мне верыцца, што такое будзе. І хочацца, каб было. Абы толькі пісаў.

*З анатацыі:* «У гэтым зборніку мікрапрозы сабраныя невялікія — ад колькіх дзясяткаў да колькіх сотняў слоў — мастацкія тэксты. Тут няма адзінае тэмы або стылю — перад вамі калекцыя імгненняў, думак і эмоцыяў, якія аўтар назапасіў за гады творчасці. Хай гэтыя гісторыі стануць для вас тымі самымі зярнятамі, з якіх прарасце вашае ўласнае натхненне».

***В. Г. / bellit.store***

# Арэцінец з чынквечэнта



Андрэй ЦУНСКІ

П’етра Арэціна (20 красавіка 1492, Арэца — 21 кастрычніка 1556, Венецыя) — італьянскі сатырык, публіцыст і драматург, які зарабіў мянушку «бізун валадароў, боскі П’етра»… Арэцінец з чынквечэнта (па-італьянску cinquecento — пяцьсот, а таксама пяцісотыя гады, — назва XVI стагоддзя).

Кім толькі яго не называлі: і шантажыстам, і злодзем, і паклёпнікам. Але хіба стаў бы ён самым уплывовым аўтарам свайго часу, калі б яму не верыла публіка?

Зрэшты, устрымаемся ад занадта хуткіх высноў. Ура! Ура! Сёння мне не давядзецца пісаць пра тое, як няшчасны бацька таленавітага хлопчыка марыў зрабіць з яго юрыста. Каму з нас не надакучыў гэты тыповы паварот у пачатку літаратурных біяграфій?

Але спачатку — усёткі Англія і Шэкспір.

***Кароль.*** *Вы ведаеце змест? У ім няма нічога заганнага?*

***Гамлет.*** *Не, не. Усё гэта жартам, атручванне жартам. Нічога заганнага.*

***Кароль.*** *Як называецца п’еса?*

***Гамлет.*** *«Мышалоўка». Але ў якім сэнсе? У фігуральным. П’еса адлюстроўвае забойства, здзейсненае ў Вене. Імя герцага — Ганзага. Яго жонка — Баптыста. Вы зараз убачыце…*

Англійскі тэатр не проста на ўздыме ў часы Шэкспіра. Гэта ўжо не кірмашовыя выступы вандроўных труп (хоць іх ніхто не адмяняў) — гэта самая сапраўдная індустрыя, вельмі прыбытковая і папулярная. Тэатры біліся за добры драматургічны матэрыял, Шэкспір не без іроніі імітаваў у «Мышалоўцы», якую прадстаўляюць акцёры ў «Гамлеце», стыль Марло. А п’ес наогул было вялікае мноства, зразумела — рознай якасці. Але дзе ж драматургі бралі гістарычны матэрыял?

Брытанскае Адраджэнне даганяла італьянскае, якое ўцякло наперад. У Шэкспіра, дарэчы, нямала «італьянскіх» сюжэтаў. Дзе ён іх браў? Не спяшайцеся прыкласці на найвялікшага драматурга таўро плагіятара. Шэкспіру не трэба было красці нечы сюжэт. Да чаго б ні дакранаўся ён — усё атрымлівалася глыбей, разумней — і ў высокім сэнсе слова тэатральней. Мы ўвогуле не пра яго. «Сыравіну» для яго п’ес ігралі ва ўсіх брытанскіх тэатрах. Аўтар драм таго часу хапаў любы матэрыял і разбіваў на рэплікі, і чым хутчэй, тым лепш, часта і не памятаючы, дзе ўзяў іх.

*Ангельцы —*
*Пісьменнікі, што ведалі*
*італьянскую,*
*У гэтага паэта кралі,*
*Мабыць, столькі ж,*
*як у Мантэня.*

*Склад сучасны, лёгкі ў яго,*
*Прыдатны нам і лашчыць*
*слых прыдворных.*

Гэта, дарэчы, піша Бэн Джонсан, сябар і супернік Шэкспіра ў камедыі «Вальпонэ». «Гэты паэт», у якога ангельскія пісьменнікі крадуць, — наш сённяшні герой. Больш за яго брудных гісторый пра італьянскіх вяльможаў не выставіў на ўсеагульны агляд ніхто.

А цяпер — хутчэй у Таскану. Ну куды ж яшчэ, калі гаворка пра эпоху Адраджэння?! Але не спяшайцеся. Нам трэба не ў сталіцу Тасканы — Фларэнцыю, а ў маленькае мястэчка Арэца. Яно было невялікім тады, невялікае і цяпер. Але жыхары Арэца адрозніваліся ва ўсе часы свабодалюбствам і самастойнасцю. Упартасць гэтых людзей, калі гаворка заходзіла аб тым, каб падпарадкаваць іх камусьці чужому, станавілася каменнай. Ну і яшчэ казалі, што языкі ў арэцінцаў атрутныя і без касцей. Так што сённяшні наш герой — літаральнае ўвасабленне свайго роднага мястэчка. У якім ён амаль не жыў…

## Адзін год і тры гарады

Пачатак 1492 года адзначыўся заканчэннем Рэканкісты ў Іспаніі — разбурана апошняя маўрытанская апора, крэпасць Гранада. На Русі замянілі Канстанцінопальскі каляндар Візантыйскім — год пачынаўся цяпер не з 1 сакавіка, а з 1 верасня. У Англіі прыдумалі новыя стрыжні для алоўкаў — графітныя. Як і сёння. Калумб рыхтаваўся адплываць у Індыю заходнім шляхам — так што не думайце, што ён лічыў Зямлю плоскай. Зрэшты, якую вялізную зямлю ён адкрые праз паўгода — ён нават не падазрае. А ў Таскане здарыліся перамены зусім не ў лепшы бок. 8 красавіка памёр саракатрохгадовы Ларэнца Медычы — Ларэнца Цудоўны, пра што Нікола Макіявелі напіша: *«Ніколі яшчэ не толькі Фларэнцыя, але і ўся Італія не гублялі грамадзяніна, гэтак услаўленага сваёй мудрасцю і які гэтак гаротна аплакваецца сваёй айчынай. І неба дало вельмі відавочныя пазнакі бедстваў, якія павінны былі спарадзіць яго скон: між іншым, маланка з такой сілай ударыла ў купал царквы Санта-Рэпарата, што значная частка яго паваліласся, выклікаўшы ўсеагульнае здзіўленне і жах. Смерць Ларэнца зрынула ў глыбокую скруху і суграмадзян, і*



Партрэт П’етра АРЭЦІНА ў маладосці. Карціна ТЫЦЫЯНА, 1512 г.

*італьянскіх валадароў, і аніводны з іх не прамінуў адправіць у Фларэнцыю сваіх амбасадараў, каб выказаць рэспубліцы спачуванне ў яе горы. І падзеі неўзабаве паказалі, наколькі абгрунтаваны быў гэты смутак».*

Пакажуць, пакажуць, праўда.

У Таскане да ўлады прыйдзе… не, гэта тут не зусім падыходзіць, улада пяройдзе да… — таксама не падыходзіць, улада апынецца ў руках… Скажам так, улада ўпадзе на галаву П’еро Дурнаватаму. Дакладна не ўстаноўлена, але мяркуецца, што гэты гора-кіраўнік загадаў забіць Піка дэла Мірандолу і Анджэла Паліцыяна. Цяпер не будзем пісаць пра іх, скажам толькі, што калі гэта праўда, то за два гады свайго здзеквання з Тасканы і Фларэнцыі П’еро зрабіў два выдатныя распараджэнні — выбітных па варварстве, злосці і глупству, і не ў добры час зачаў яго Ларэнца Цудоўны.

Да гонару Медычы, у гэтай сям’і П’еро быў такі адзін. Так што ніхто і не заўважыў, што ў Арэца ў ноч з 19 на 20 красавіка ў мясцовай жыхаркі Маргарыты Бончы, па мянушцы Ціта, нарадзіўся сын П’етра. Фармальна бацькам яго быў шавец Лука Дэль Тура, які кінуў Ціту і сышоў ваяваць у апалчэнне. Але ці быў ён, як цяпер кажуць, «біялагічным» бацькам П’етра — сказаць цяжка. Ціта пазіравала мастакам, яе знешнасць выклікáла ў многіх захапленне, і плётак пра яе было шмат.

Але мы ліхасловіць не станем — сапраўды не ведаем, ды і так не сталі б. Затое нам вядома, што П’етра ад прозвішча бацькі адмовіўся і праславіўся як П’етра Арэціна. На славянскіх землях быў бы Пятром Арэцінскім…

Выхоўваў П’етра і яго двух сясцёр арэцінскі шляхціч Луіджы Бачы — як родных. Калі скончылася дзяцінства, юнак адправіўся ў Перуджу. З сабой у яго былі ўменне чытаць, поўная адсутнасць культурнага багажу і беднае адзенне ў адзіным экзэмпляры.

Што ён там рабіў? Быццам бы вучыўся жывапісу, аднак без асаблівых поспехаў у гэтай галіне. Здаецца, яго выгналі за тое, што намаляваў мадонну з лютняй замест немаўляці. Працаваў пераплётчыкам (таксама выгналі), адолеў латынь і хапаў па вярхах веды — дзе мог знайсці. Глыбокую і сістэматызаваную адукацыю яму атрымаць не было дзе. Але ўчэпісты розум і арэцінская напорыстасць, ды што там — шчыра кажучы, нахабства, — гэтага ўжо нямала.

Ды і не сядзець жа век у Перуджы — як сын шаўца. Калі выйсці з Перуджы на дарогу — то направа будзе Фларэнцыя, а налева — Рым.

П’етра адправіўся ў Рым. У Рыме пра яго хутка загаварылі. Як ён дамогся заступніцтва банкіра Агасціна Кіджы — сказаць не магу. Недзе сустракаецца нават версія, што ён служыў у яго доме памочнікам повара. Галоўнае, што Кіджы быў самым багатым чалавекам у Рыме і пазычаў грошы ўсім рымскім пáпам, усім уладарам — ну акрамя Медычы… Не. П’еро нездарма назвалі «дурнаватым» — ён дайшоў да таго, што браў у доўг у Кіджы. Медычы! У доўг!

А П’етра глядзеў — і матаў на вус. У доме ў Кіджы, а быў гэта не проста дом, а цудоўная віла на беразе Тыбра з імем уласным «Віла Фарнэзіна», П’етра пазнаёміцца з мастакамі, якім гаспадар замовіў фрэскі: Рафаэлем, Джуліа Рамана, Себасцьяна дэль П’ёмба, Франчэска Пэні. Там ён убачыць на свае вочы ўсю рымскую шляхту, пазнае ўсе плёткі, усе чуткі і таямніцы. Яны і стануць для яго заменай ведаў.

Загавораць пра яго ўжо хутка, прычым як пра паэта. Адмысловага кшталту.

## Ад чаго дохнуць сланы (але не паэты)

У 1514 годзе кароль Партугаліі даслаў са сваім паслом Трыставам дэ Кун’е ў падарунак папу рымскаму Льву X індыйскага слана па імені Хано (ці Гано, ці Ганон), чым вельмі пантыфіку дагадзіў. Хано быў белага колеру, было яму каля



Партрэт П’етра АРЭЦІНА . ТЫЦЫЯН, каля 1548 г.

чатырох гадоў. Леў X любіў свайго гадаванца, паміж базілікай Святога Пятра і Апостальскім палацам для папскага элефанта пабудавалі спецыяльны павільён, дзе той і жыў у сваё задавальненне. Наогул, у гэтай папскай элефантыяне было нешта ўжо зусім ганебнае. Гістарычная жывёла ўжо не галадала і была апетая паэтамі, адлюстраваная вялікімі мастакамі… Тыгр Амур і казёл Цімур такімі ўшанаваннямі не ганараваліся. Паскуале Маласпіна пісаў:

*Прад Папам у Бельведэры*
*быў прадстаўлены*
*Ў вясёлых танцах слон.*
*Зграбней за ўсіх танцораў звер*
*быў слаўны.*
*Пантыфіку адвесіў свой паклон*
*І выдаў трубны роў, затым*
*калені*
*Пачціва перад Папам прыхіліў*
*І аглушыўшы ўсіх, не знаючы*
*сумневаў…*
*Усё, надакучыла перакладаць мне*
*Патугі лізаблюдскіх*
*песнапенняў…*
*Дакучлівая штука — лісьлівасць.*

Папскі ўлюбёнец удзельнічаў ва ўрачыстых працэсіях, гаспадар не мог ім нарадавацца, але раптоўна — усяго праз два гады — відаць, пераеў і захварэў. Увогуле — здарыўся ў яго вельмі маштабны (слон усё ж) запор. Слану рабілася ўсё горш, роў ён ужо ад роспачы, рымскія эскулапы прапісалі яму двухсотлітровы клісцір і лячэбныя свечкі з золатам. Пасля гэткай клізмы, нягледзячы на дарагоўлю лячэння, 8 чэрвеня 1516 года, так і не… увогуле, небарака памёр і быў пахаваны там жа, у Бельведэры. Мастак Рафаэль таксама «прысланіўся»: ён напісаў мемарыяльную фрэску, хоць яна і не захавалася, у рэальным памеры нябожчыка прама над магілай і з надпісам: «Што прынесла прырода, тое захаваў сваім мастацтвам Рафаэль».

Сам жа Леў X — у слязах — склаў эпітафію: «Пад гэтым вялікім узгоркам я пахаваны, магутны слон, якога кароль Эмануіл узяў у палон пры заваёве Усходу, я, які быў пасланы Папу Льву X у дар і на здзіўленне люду рымскаму. Звер, якога даўно не бачылі… траляля-траляля: пражыў сем гадоў». Джавані Батыста Бранканіо дэл’Акуіла, камерленг і начальнік аховы слана… выгукнуў у 1516 годзе, 8-га дня чэрвеня: «Хай пашле Яго Правялебнасці Льву злы лёс столькі гадоў, колькі выкраў у любімага яго слана».




Старонкі кнігі П’етра АРЭЦІНА «Пра чалавечнасць Хрыста» з партрэтам-гравюрай аўтара




Стансы П’етра АРЭЦІНА. Гравюра Джавані БРЫТА, 1537 г.

Заканчэнне на стар. 12 »

# Арэцінец з чынквечэнта

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 11

У той час у Рыме было прынята вывешваць вершы і палітычныя памфлеты каля статуі Пасквіна. Гэта абломак скульптуры невядомага каго, празваны ў гонар школьнага настаўніка, які ці жыў, ці працаваў у доме насупраць гэтай фігуры. Увайшло ў звычай казаць «Што там піша Пасквіна?» І слова «пасквіль» з'явілася менавіта тут. Пасля смерці слана Пасквіна выдала такое, што ад рогату ўвесь Рым валяўся некалькі дзён. Сачыненне называлася «Апошняя воля і запавет слана Хано». Слон размеркаваў паміж папскім асяроддзем усё, што меў: *«Майму спадчынніку кардыналу Санці Куатра я завяшчаю свае сківіцы, каб ён мог больш паспяхова пажыраць нажытае... Нашчадку кардыналу Медычы завяшчаю свае вушы, каб ён мог лепш чуць, што і дзе адбываецца...»* Кардыналу Грасі... (ён быў вядомы сваімі сэксуальнымі прыгодамі) — ну ды вы здагадаліся. Калі б гэта было магчыма, кардынал не стаў бы адмаўляцца. Нарэшце прыляцела і самому Льву X, а напрыканцы слон пакінуў галоўны запавет: *«Імкніся пасябраваць з Арэцінам, бо небяспечна быць яго ворагам. Адным слоўцам ён загубіць нават самога папу, так што ратуй нас, Божа, ад яго языка»*.

Чытачы з цікавасцю чакалі, што ж цяпер зробіць з аўтарам «запавету» папа. Аднак Леў X калісьці зваўся Джавані Медычы і выдатна ведаў жыхароў тасканскай маркі. Адшукаць аўтара было зусім няцяжка, і гэта было зроблена, але Леў-Джавані нават не пакрыўдзіўся. Ну арэцінец, што з яго ўзяць?! А як добра прабраў усіх! Напішы ён такое слану, пакуль Хано быў жывы, — той, глядзіш, і не памёр бы. І папа загадаў П'етру з'явіцца ў Ватыкан і... прапанаваў працу. І цяпер ужо ён сам паказваў бы, каго губіць слоўцам.

## Венецыянец

Паміж першым і апошнім раздзельчыкамі гэтага аповеду пра П'етра Арэціна дзіўным чынам змясцілася ўсё яго жыццё. Мы ведаем, як яно пачалося. А вось цяпер — паглядзім на яго завяршэнне.

*Арэціна жыве ў Венецыі. Вось як піша пра ягоны звыклы лад жыцця француз Філарэт Шаль: «Вялікі чалавек прымае столькі народа, што слугі вызваленыя ад абавязку дакладваць. Мармуровыя прыступкі вялікіх усходаў, распісаных фрэскамі, вядуць вас у шырокую залу, якая служыць перадпакоем. Усюды статуі, эскізы ў рамках, абрыўкі кардонаў, накіды Тыцыяна і Джарджонэ. Шэсць жанчын з валасамі, заплеценымі па-венецыянску, працуюць у гэтай зале; адна з іх іграе на арпікордзе — гітары больных памераў, чым цяперашнія. Звярніце на іх увагу. Усе яны маладыя і добрыя, лёгкія, гарэзлівыя. Гэта арэцінкі. Пад гэтым імем іх ведае ўся Венецыя. Арэціна ахрысціў іх. Сонца, промні якога падаюць з трох вялікіх вокнаў на плафон, асвятляе гэтую спакуслівую групу.*

*Тут жа адкрываецца вялікі балкон, задрапаваны чырвонай шаўковай матэрыяй з сінімі паласамі, падарункам маркіза дэль Васта, упрыгожаны двума апельсінавымі дрэвамі і фестанамі павойных раслін, якія накіроўваюцца ўверх і звісаюць у выглядзе элегантнай аркады. Адсюль адкрываецца від на Рыальта. Тут Арэціна часта праводзіць вечарыны са сваім сябрам Тыцыянам. Яны сузіраюць доўгія гандолы, купалы палацаў, гандальераў з мускулістымі рукамі ў стромкіх лініях паветранай перспектывы.*

*На лесвіцы натоўп. Вы ніколі не дабярэцеся да Арэціна. Усходнія людзі ў доўгіх халатах, пачцівыя армяне, пасланцы Францыска I, знакамітыя мастакі, маладыя скульптары, якія прагнуць славы, жанчыны, захопленыя яго гучным імем, светары, лёкаі, манахі, пажы, музыканты, салдаты. У руках у большасці падарункі...*

*Вось спускаецца высокі, нядбайна апрануты малады чалавек, увесь у чорным, з выглядам нахабным і бестурботным. Ён просіць прысутных пачакаць. Гэта сакратар і вучань Ларэнца Венер. У Арэціна іх некалькі...*

*Вялікі чалавек з'яўляецца нарэшце. На ім ланцуг Карла V. Ён скупа ўганароўвае вас поглядам. Ён рухаецца наперад...*

*Яго (П'етра Арэціны) гардэроб поўны дарагой вопраткі, дастаўленай яму Азіяй і Еўропай. Яго кабінет рэдкасцяў, яго карцінная галерэя здабытыя з тых жа крыніц. Менш за ўсё ў яго кніг... Вы шукаеце бібліятэку. Яе няма. Але вось буфетная, якая сведчыць аб неймаверным спажыванні мяснога і мучнога».*

Ну што — паверыць у гэта няцяжка, тым больш, што Шаль пісаў гэта ў XIX стагоддзі па аповедах тых, хто і праўда бываў у Арэціны. Але яшчэ Аляксей Карпавіч Джывелегаў дзівіўся, як лёгка вонкавы дабрабыт прымушае забыцца пра несумнеўныя добрыя якасці.

Арэціна быў прагны да грошай — але не скупы, імкнуўся шмат набыць — і шырока марнаваць. Ён зусім не быў злапомным, лёгка дараваў і злыя словы, і крыўды больш сур'ёзныя. Не раз яго спрабавалі і проста збіць, і забіць — а ён калі і адказваў, дыко толькі словам. Хоць яго слова бывала і страшней за нож. Усе валадары Італіі, Еўропы і нават Сулейман Найпрыгожы змушаныя былі лічыцца з «фактарам Арэціна».

Многія плацілі яму, каб пісаў. Астатнія — каб не пісаў пра іх.

## Чаму ён апынуўся ў Венецыі?

Гэта — святы горад і рай зямны... Як на маё, дык я хацеў бы, каб пасля маёй смерці Бог пе- ратварыў мяне ў гандолу або ў падстрэшак да яе, а калі гэта занадта, то хоць у вясло ці нават коўш, якім вычэрпваецца вада з гандолы... Я ўзбагачуся воляй. Там, прынамсі, ні фаварытам, ні фаварыткам не дадзена ўладай забіваць бедных людзей. Толькі там правасуддзе трымае шалі ў раўнавазе. Там страх перад чыёй-небудзь няласкай не прымушае нас пакланяцца ўчарашняму паршыўцу...


П'етра АРЭЦІНА чытае ў садзе ТЫЦЫЯНА. А. ВІХМАН (1820—1866)

Перш чым навешваць на Арэціна ярлык шантажыста і вымагальніка, паклёпніка і прайдзісвета — вельмі вас прашу, пачытайце. Толькі не пра яго, а яго самога. Цяжка знайсці? Тады лепш увогуле нічога не казаць. На запыт вам адразу выдадуць «Пажадлівыя санэты». Вельмі смелая для свайго часу рэч цяпер ужо здаецца нейкай запыленай класікай. Апісвае ўсяго шаснаццаць пазіцый (у сэксе)... Можа быць, недзе згубіліся яшчэ некалькі? Дарэчы, каб пісаць пра гэта, таксама трэба быць вольным чалавекам. У рабоў не атрымліваецца.

## Хто твой сябар

Калі расказаць пра сяброўства Арэціна з мастакамі — несумненна, што сяброўства гэтага яны самі шукалі. Вось, пачытайце: *«Найслаўны месер П'етра, спадар мой і брат! Атрымаўшы Ваш ліст, я адначасова адчуў і радасць і засмучэнне. Я вельмі ўзрадаваўся таму, што ён ад вас, чалавека па сваіх доблесцях адзінага ва ўсім свеце. І разам з тым я вельмі засмуціўся, бо, скончыўшы ўжо большую частку размалёўкі, я ніяк не магу скарыстацца ў ёй Вашай задумай, якая такая, што калі б дзень Страшнага суда ўжо наступіў і Вы пры гэтым прысутнічалі, Вашы словы лепш не маглі б яго адлюстраваць».*

Або вось: «<...> *калі месер П'етра Арэціна, знакаміты ў той час паэт і мой вельмі вялікі сябар, выклікаў мяне ў Венецыю, я быў вымушаны туды адправіцца, паколькі ён вельмі хацеў мяне бачыць, ды і зрабіў я гэта з ахвотай, каб за час гэтага падарожжа ўбачыць творы Тыцыяна і іншых жывапісцаў»*. Гэта словы іншага Арэціна — Джорджа Вазары.

А ўжо як адлюстраваў Арэціна яго блізкі сябар Тыцыян — ну тут і цытат ніякіх прыводзіць не патрабуецца. Не, адну можна: «<...> *калі б я адлічыў яму больш манет, тканіны на партрэце былі б бліскучымі, мяккімі ці цвёрдымі, якімі і бываюць насамрэч аксаміт і брокат»*. Гэта піша сам Арэціна, адрасат ліста — Козіма Медычы.

Мікеланджэла адлюстраваў Арэціна ў выглядзе святога Варфаламея, па традыцыі — з сарванай скурай у руцэ. Толькі трымае ён — пра што лёгка здагадацца — не ўласную скуру, а няшчасную скуру Мікеланджэла. Людзі несур'ёзныя кажуць, што гэты малюнак з'явіўся з-за таго, што Арэціна прадаваў карціны вялікіх на сёння мастакоў моцным свету гэтага — і нядрэнна за іх кошт пажывіўся. Магчыма. А можа, і не. Ну дык і камісійныя за паспяховы продаж не былі навінкай ужо і тады. І гадасці сябар пра сябра казалі людзі заўсёды... завочна.

Не, не дачакаецеся вы ад мяне высноў. Не буду я рабіць за вас тое, што вы павінны зрабіць самі!


П'етра АРЭЦІНА ў майстэрні ЦІНТАРЭТА. Жан Апост Дамінік ЭНГР (1780—1867)

Літаратурная Беларусь
Адрас электроннай пошты:
litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.